**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 6.03, 20.16, 14.13;
Віцебск — 5.50, 20.09, 14.19;
Магілёў — 5.52, 20.05, 14.13;
Гомель — 5.50, 20.00, 14.10;
Гродна — 6.16, 20.32, 14.16;
Брэст — 6.23, 20.27, 14.04.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 17 красавіка.

**ІМЯНІНЫ:**
Фядула, Сымона, Марка, Платона, Хвядоры; Апалонія, Аліцыі

# ЗВЯЗДА

18 КРАСАВІКА 1992 г.
субота, № 81 (21859)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

## РОЗГАЛАС

### СВЕТЛАЕ СВЯТА ЎВАСКРЭСЕННЯ

**На працягу бліжэйшых трох дзён вернікі Рымска-каталіцкай царквы святкуюць Вельканоц. Нагадаем, што ў мінулым годзе Вярхоўны Савет рэспублікі зацвердзіў гэтае свята як агульнанацыянальнае, а таму мы хочам павіншаваць вас, дарагія суайчыннікі, з днём светлага Хрыстова ўваскрэсення.**

**Праслаўляецца той дзень, калі Марыі і Марыі-Магдаліне з'явіўся жывы Ісус, якога жанчыны бачылі распятым. «Радуйцеся, — сказаў ён ім, — ды ідзіце, навучайце ўсё, што Я сказаў вам; і вось Я з вамі ўсе дні да сканчэння веку...»**

**Сённяшняй ноччу ва ўсіх касцёлах будзе наладжана ўрачыстае ўсяночнае богаслужэнне.**

### І ЎВАЙШОЎ ІСУС У ІЕРУСАЛІМ...

19 красавіка Праваслаўная царква і стараверы адзначаюць Вербніцу. Вербную нядзелю — свята ў памяць Уваходу Госпада ў Іерусалім. Паўсюдна ў цэрквах асвячаюцца галінкі вярбы, якімі прынята ў гэты дзень сцябаць адзін аднаго, прыгаворваючы: «Не я б'ю, вярба б'е: за тыдзень — Вялікдзень». Аздобленыя каляровымі засушанымі кветкамі, каласкамі лазінкі («пальмы віленскія») імітуюць пальмы, якімі народ сустракаў Хрыста пры яго ўездзе ў Іерусалім. Асвячонай вярбою выганяюць на першы выпас жывёлу, у некаторых мясцінах лічаць, што, з'еўшы дзевяць пупышак вярбы, можна засцерагчыся ад зубнога болю.

Вось як расказваецца аб дні Уваходу Госпада ў Евангеллі ад Св. Марка (гл. 10):

32. Калі яны былі ў дарозе, ідучы ў Іерусалім, Ісус ішоў наперадзе іх, а яны, ідучы за ім, былі ў страху. І, узяўшы ізноў дванаццаць, пачаў ім гаварыць аб тым, што з ім мае стацца.

33. Вось, і мы ўваходзім у Іерусалім, і Сын Чалавечы будзе выданы архірэям і кніжнікам, і засудзяць Яго на смерць і выдадуць Яго паганым;

34. І наздзекуюцца над Ім, і будуць біць Яго, і заб'юць Яго, і на трэці дзень уваскрэсне.

1. (гл. 11) І, калі падышлі да Іерусаліма, да Віфагіі і Віфані, да гары Аліўнай, Ісус пасылае двух вучняў Сваіх.

2. І кажа ім: пойдзеце ў сяло, што перад вамі; уваходзячы ў яго, зараз знойдзеце аслянятка, на якое ніхто з людзей, не сядаў; адвязаўшы яго, прывядзіце.

3. І калі хто скажа вам, што вы гэта робіце? Адказвайце, што яно патрэбна Госпаду, і зараз пашле яго сюды.

4. Яны пайшлі і знайшлі аслянятка, прывязанае ля варот на вуліцы, і адвязалі яго.

5. І некаторыя, што там стаялі, гаварылі ім: што робіце? Нашто аслянятка адвязваеце?

6. Яны адказалі ім, як загадаў Ісус, і тыя пусцілі іх.

7. І прывялі аслянятка да Ісуса, і паклалі на яго свае вопраткі, і Ён сеў на яго.

8. І многія пасцілалі адзежу сваю на дарозе, а іншыя рэзалі вецце з дрэў і ўсцілалі ім дарогу.

9. І тыя, што ішлі перад і за ім, крычалі, мовячы: Асанна! Благаслаўлёны, што ідзе ў імя Госпада!

10. І ўвайшоў Ісус у Іерусалім, у святыню...

Падрыхтаваў **Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

### Я ВЕДАЮ—ХРАМ БУДЗЕ

**Незвычайны падарунак рыхтуе калектыў Мінскага опернага тэатра да вялікага свята Праваслаўнай царквы — Вялікадня. Раніішні канцэрт 26 красавіка адкрыецца прывітальным словам мітрапаліта Філарэта. Канцэрт прызначаны для юнай публікі, і ўдзельнічаюць у ім лепшыя дзіцячыя калектывы — камерны аркестр музычнага ліцэя, выхаванцы харэаграфічнага вучылішча, народны дзіцячы цырк. Зборы ад канцэрта пойдуць у фонд будаўніцтва Храма памяці трагедыі Чарнобыля.**

**БелаПАН.**

### ГАРЭЛКА: ЦАНА НЕ ПЕРАШКОДА. БЫЛІ Б ГРОШЫ

Працягваючы тэму павышэння цэн на белую гарэлку, мы вырашылі зрабіць апытанне ў невялікіх чэргах ля віннa-гарэлачных прылаўкаў магазінаў. Адразу забяжым наперад і адзначым, што нездаволеных новым коштам «крыштальнага напітка» больш. Чаму? Такога пытання не ўзнікае. Але, як аказалася, ёсць спажыўцы, якіх (калі не на 100, дык на 99 працэнтаў) задавальняе пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14 красавіка. Вось тут можна і задаць законнае пытанне: «А, уласна, чаму?» Адказаў некалькі.

**Андрэй ГУСАРАЎ:** Цяпер стала вальней дыхаць у чарзе. Падышоў, заплаціў, узяў і час не марнуецца. Былі б толькі грошы.

**Аляксей ДРАГУН:** Пастанова добрая. Толькі трэба было павышаць не на 25 і 35 рублёў, а, скажам, на 100. А следам прыняць пастанову аб адмене вінна-гарэлачных талонаў. Працуеш добра, адпаведна зарабляеш — можна дазволіць расслабіцца.

**Зінаіда БАБІК:** Добрая рэч. Цяпер, здаецца, можна будзе і ў сям'і наладзіць нейкі дабрабыт. А то мой прапойца з сябрукамі ўжо замучыў. Толькі трэба б было цану на гарэлку яшчэ больш падняць.

**ГЕНАДЗЬ... Ікс.** Справа мая больш жвава пойдзе. Уласнага вырабу гарэлку можна прадаваць крыху танней — таму, спадзяюся, і ахвотнікаў будзе дастаткова. Толькі разабрацца неяк з цукрам не шкодзіла б.

***

Цяпер крыху статыстыкі. Было апрошана 54 чалавекі. З іх незадаволеных пастановай — 49. Тых жа, хто настроены аптымістычна і не супраць новага ўзлёту цэн на белую гарэлку, толькі 5.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### БАТУ—ЯШЧЭ АДЗІН БЕЛАРУСКІ УНІВЕРСІТЭТ



Наўрад ці знойдзецца ў рэспубліцы калгас ці саўгас, дзе б не працавалі выпускнікі Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі. І гэта не дзіўна — каля сарака гадоў рыхтуе ён спецыялістаў для вёскі.

Дык вось: днямі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб пераўтварэнні гэтай важнейшай навучальнай установы ў Беларускі аграрны тэхнічны універсітэт — БАТУ. Прычым, зрабіць гэта вырашана «ў межах асігнаванняў, якія прадугледжаны Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання на ўтрыманне навучальных устаноў на 1992 год».

Справа цяпер за тым, каб разам з павышэннем статуса ВНУ павысіць якасць падрыхтоўкі спецыялістаў сельскай гаспадаркі.

**В. КРАЎЧАНКА.**
**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

## Бізнесмены «атакуюць» В. Кебіча ў Мілане

Цэнтральнай падзеяй дзелавых сустрэч, якія адбыліся ў Мілане, стаў удзел беларускай дэлегацыі ў вечары, арганізаваным гандлёва-прамысловай палатай «Італія-Расія».

У старажытным асабняку, дзе размясціўся офіс палаты, на сустрэчу з прадстаўнікамі Беларусі сабралася шырокая аўдыторыя дзелавых людзей, грамадскіх дзеячаў, кіраўнікоў адміністрацыі Мілана. Да прысутных з прамовай звярнуўся кіраўнік урадавай дэлегацыі Беларусі В. Ф. Кебіч, які расказаў аб рэспубліцы, аб праблемах рэфарміравання яе эканомікі, заклікаў бізнесменаў і ўвесь дзелавы свет да актыўнага супрацоўніцтва з рэспублікай. Як толькі закончылася афіцыяльная частка, дзелавыя людзі Мілана ў літаральным сэнсе атакавалі кіраўніка беларускага ўрада. Многія тут жа прапанавалі свае праекты для супрацоўніцтва, цікавіліся законамі нашай рэспублікі аб замежных інвестыцыях, проста пыталіся, як пачаць сваю справу ў нашай рэспубліцы, куды ісці, да каго звярнуцца. Амаль дзве гадзіны працягвалася гэта сустрэча. Старшыня Савета Міністраў Беларусі В. Ф. Кебіч, старшыня Дзяржкамітэта па знешне-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПРА ЛЮДСКАСЦЬ

## УСЁ, ШТО БЫЛО І ЁСЦЬ...

*Фотарэпартаж з Маладзечанскага дома-інтэрната для інвалідаў і састарэлых*







**— Усё ў нас ёсць, усё добра, дзякуй нашай Радзіме, — адказала сівенькая бабуля ў інвалiднай калясцы. Не, яна не пакрывіла душою ў адказ на пытанне незнаёмага карэспандэнта. Не толькі з пункта гледжання гэтай бабулькі, але і на маю думку, жывецца гэтым старым у казённым доме зусім не дрэнна. Ва ўсякім разе лепш, чым значнай колькасці іх аднагодкаў, вымушаных нашай рэчаіснасцю жабраваць пад вітрынамі шыкоўных камерцыйных магазінаў або дажываць свой век ў хваробах, пакінутымі роднымі і суседзямі.**

**Цяжкі наш час, і яго характэрная рыса — узрастаючая колькасць адзінокіх старых. Усяго нямногім больш за паўтары сотні жыльцоў здольны прыняць пад свой дах гэты інтэрнат. Невялікія спальні з фотакарткамі над ложкамі, такая ж невялікая бібліятэка, сталовая, кабінеты медыкаў, кінаканцэртная зала — вось і ўсё, што знаходзіцца ў гэтым старым двухпавярховым будынку. А яшчэ ёсць тут невялікая, але дастатковая колькасць мэблі, адзення, медыкаментаў. Ёсць яшчэ парашковае малако і мука, дасланыя ў якасці дапамогі з Германіі, ёсць інвалідныя каляскі з таго ж далёкага замежжа.**

**Дзякуй і за гэта. Крыўдна толькі за іх саміх, усе свае гады аддаўшых працы на карысць грамадства, страціўшых сваё здароўе, атрымаўшых на схіле жыцця толькі пропуск у казённы дом.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: і ў старасці не ведаюць спакою рукі, якія здаўна прывыклі да працы. Георгій Лук'янавіч БАЖКО шые ў інтэрнацкай майстэрні рамяні па заказу мясцовага завода музычных інструментаў. Ганна Васільеўна КАРАСКЕВІЧ вяжа прыгожыя сурвэткі. Усё, што было і ёсць: некалькі ўзнагарод і накіраванне «на дзяржаўнае ўтрыманне».**

## БЕЛАРУСЬ РЫХТУЕЦЦА ДА ЎВЯДЗЕННЯ ШМАТРАЗОВЫХ КУПОНАЎ

**Сярод насельніцтва рэспублікі атрымала вялікі рэзананс выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Лінга, старшыні Дзяржэканомплана. У «Звязду» тэлефануюць жыхары, просяць надрукаваць асноўныя моманты яго прамовы. Прапануем чытачам некаторыя вытрымкі са стэнаграмы выступлення С. Лінга.**

Пасля размовы з Гайдарам будзе падпісана пагадненне, згодна з якім у Беларусь будзе пастаўляцца нафта і газ: 60 працэнтаў па фіксаваных цэнах, 40 — па дагаворных.

Сярэдняя цана тоны нафты ў першым квартале была каля 2,5 тысячы рублёў. Гайдар, каб не блытацца ў гэтых 60 і 40 працэнтах, унёс прапанову — устанавіць адзіную фіксаваную цану да 2,5 тысячы рублёў.

Па газу — 1.600 рублёў за 1.000 куб. метраў — вельмі цяжка для нашай гаспадаркі, але гэта ўсё ж прымальная ўмова. Энергарэсурсамі, дзякуючы намаганням урада, рэспубліку ўдаецца забяспечваць у патрэбных аб'ёмах. Сёння ў сельскай гаспадарцы запасы іх большыя, чым летась.

Урад унёс прапановы ў Вярхоўны Савет аб павелічэнні мінімальнай зарплаты да 550 рублёў і першага разраду тарыфнай сеткі — да 600 рублёў. На 20—25 працэнтаў будуць павялічаны рэальныя даходы насельніцтва за кошт індэксацыі зарплаты і іншых даходаў.

Застаецца датацыя: на хлеб, мяса і малочныя прадукты амаль на 8 млрд. рублёў, на медыкаменты — 1,5 млрд. рублёў і на перавозкі гарадскім транспартам — каля 4 млрд. рублёў.

Адсутнасць парытэту паміж сельскай гаспадаркай і прамысловасцю можа прывесці да краху сельскай гаспадаркі, да развалу эканомікі рэспублікі. Нам давядзецца перагледзець закупачныя цэны, закрануўшы цэны на мяса-малочную прадукцыю, цукар. Пры гэтым пакінуць фіксаваныя цэны, бо калі іх зрабіць свабоднымі, насельніцтва не вытрымае, а сельская гаспадарка не прадасць сваю прадукцыю.

Будуць прыняты меры па сацыяльнай абароне. Індэксацыя будзе весціся такім чынам, каб разрыў паміж ростам цэн і ростам даходаў не перабольшваў 30 працэнтаў.

У сувязі з ростам зарплаты, грашовага абароту, адсутнасцю наяўных грошай надышоў час разгледзець пытанні па змяншэнню наяўнага абароту. Гэта чэкі і іншыя каштоўныя дакументы. Магчыма, выдаваць частку зарплаты наяўнымі, астатняе класці на ашчадную кніжку. Інакш можа паралізавацца грашовы абарот.

Мы рыхтуемся да ўвядзення беларускіх шматразовых купонаў. Яны ўжо друкуюцца і, верагодна, у маі пачнецца іх увод. Гэта робіцца для таго, каб прыкрыць купонамі ўвесь грашовы абарот. Бо ёсць даныя, што іншыя рэспублікі рыхтуюцца ўвесці ўласную валюту. Магчымы наплыў да нас рублёвай масы. Наш купон будзе мець сем ступеняў абароны. Гэта, уласна кажучы, амаль уласныя грошы. Яны будуць хадзіць разам з рублём.

Тым, хто прыязджае да нас з іншых рэспублік, купоны будуць прадавацца па адпаведнаму каэфіцыенту. Купон гэты будзе адпавядаць 10 рублям, г. зн., у 10 разоў даражэйшы за рубель. І будзе прадавацца, магчыма, у 15 ці 20 разоў даражэй тым, хто прыязджае да нас.

Купонамі нельга будзе прыкрыць тыя грошы, якія сёння знаходзяцца на руках у насельніцтва. Трэба вяртацца да лозунга «Захоўвайце грошы ў ашчадных касах».

## Чаго хочуць шахцёры Салігорска

**Усе, мабыць, ужо ведаюць, што шахцёры Салігорска больш месяца бастуюць, нягледзячы на тое, што іх забастоўку абласны суд прызнаў незаконнай. Трое з іх галадаюць, хоць на мітынгу ў чацвер на плошчы Незалежнасці ў Мінску іх заклікалі амаль усе выступаўшыя там і тэлеграмамі шахцёры з іншых месц СНД прыпыніць гэта бяссэнсавае глумленне над сабой, бо яно не мае той сілы, якая патрэбна, каб дасягнуць выканання сваіх патрабаванняў. Шахцёры Салігорска працягваюць мітынгаваць. Учора з раніцы яны зноў сабраліся на стадыёне ў сваім гарняцкім горадзе. Паехалі туды і галадаючыя з плошчы Незалежнасці.**

На першым плане ў патрабаваннях шахцёраў падпісанне тарыфнага пагаднення, галоўны пункт якога — прынцып налічэння заработнай платы шахцёрам. Умовы працы пад зямлёй вельмі складаныя і рызыкоўныя. А зарплата іх у сярэднім такая ж, як і ў тых, хто працуе на зямлі. Прадаючы сваю прадукцыю на міжнародным рынку, гарнякі папаўняюць дзяржаўную казну валютай. Былі заўсёды і некаторыя адлічэнні яе ў фонд прадпрыемства. Але як расходаваліся і на што траціліся гэтыя валютныя сродкі не ведаюць на аб'яднанні ні рабочыя, ні лідэры прафсаюзаў. Наконт гэтага папаўзлі розныя чуткі. Людзі хацелі ведаць праўду. Але адміністрацыя не выдала гэту «камерцыйную тайну». Зараз гарнякі патрабуюць акрамя вызначаных урадам 30 працэнтаў валютных сродкаў атрымліваць у распараджэнне прадпрыемства яшчэ 15. Тады яно зможа вырашыць усе вытворчыя пытанні, у тым ліку павысіць заработную плату шахцёрам.

— Мы разумеем, — гаворыць старшыня прафкома хімікаў ВА «Беларуськалій» Зінаіда Міхневіч, — што адразу выканаць усе нашы патрабаванні па павышэнню зарплаты немагчыма. Гэта можна зрабіць паступова. Мы тлумачылі людзям сітуацыю. Але эканамісты, прадстаўнікі адміністрацыі не пайшлі да людзей, каб з лічбамі ў руках усё гэта растлумачыць, запэўніць народ.

Людзі на камбінаце адміністрацыі ўжо не вераць і патрабуюць адстаўкі генеральнага дырэктара Анатоля Падлеснага.

— Мы хочам, — сказаў старшыня Незалежнага прафсаюза гарнякоў Беларусі, машыніст горна-выемачнай машыны Іван Юргевіч, — каб дзейнасць адміністрацыі расследавала ўрадавая камісія або камісія Вярхоўнага Савета. Я буду галадаць да той пары, пакуль генеральны дырэктар не пойдзе ў адстаўку. І Дзяржкампрам павінен згадзіцца на стварэнне конкурснай камісіі па адбору прэтэндэнтаў, на пасаду генеральнага дырэктара. Толькі такім чынам новы генеральны дырэктар атрымае вотум даверу калектыву. Мы яшчэ хочам і будзем у гэтым накірунку працаваць, каб рудакіраўніцтвы аб'яднання перайшлі ва ўласнасць працоўных калектываў. І мы патрабуем падпісання дапаўнення да тарыфнага пагаднення.

Па-рознаму можна ставіцца да патрабаванняў шахцёраў Салігорска і іх метадаў дасягнення сваіх мэт. Можна асуджаць, можна падтрымліваць. Але гэтага мала. Церпяць не толькі самі шахцёры і іх сем'і, якія не атрымліваюць зарплаты, грашовыя ж накапленні былых гадоў зусім абясцэніліся, а дарагоўля ў магазінах усё расце... Церпіць аб'яднанне «Беларуськалій». Церпіць Рэспубліка Беларусь. І вось у якім сэнсе. «Беларуськалій» — прадпрыемства, якое гандлюе сваёй прадукцыяй на міжнародным рынку. За доўгія гады склаліся даволі трывалыя сувязі з замежным спажыўцом. Ішла валюта, грошы — тое, што нашаму дзяржаўнаму бюджэту зараз вельмі патрэбна. З другога боку, месяц перапынку ў адгрузцы прадукцыі — даволі вялікі тэрмін. Наўрад ці будуць прывучаныя да парадку замежныя спажыўцы чакаць. Тым больш, што канкурэнт у нашых калійшчыкаў ёсць — «Уралкалій».

Як паведамілі нам па тэлефоне, мітынг учора ў Салігорску не стаў апошнім у шахцёрскай гісторыі. Прынята рашэнне ў аўторак, 21 красавіка, сабрацца зноў. Дзве праблемы павінны быць вырашаны да гэтага дня: падпісана новае часовае пагадненне паміж прафсаюзамі і Дзяржкампрамам аб паэтапным павышэнні заработнай платы шахцёрам і вырашана пытанне аб адстаўцы генеральнага дырэктара аб'яднання А. Падлеснага. Весткі пра тое, што з сакавіка павысіліся цэны на энергарэсурсы, зноў насцярожылі рабочых «Беларуськалія». Яны пачалі сумнявацца ў тым, што намечаныя да гэтага меры па павышэнню ім заработнай платы будуць эфектыўнымі. Таму яшчэ спатрэбіўся час, каб удакладніць некаторыя моманты. Пасля вырашэння названых праблем шахцёры абяцалі прыступіць да работы. Па просьбе ўдзельнікаў мітынгу галадаючыя спынілі сваю акцыю.

**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

## Канцэпцыя БНФ: меркаванні і прагнозы

**Пазаўчора «Народная газета» надрукавала канцэпцыю эканамічнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь, падрыхтаваную апазіцыяй БНФ. Вядома, гэты дакумент патрабуе карпатлівага вывучэння, перш чым дэталёва аналізаваць яго. І такі аналіз, прычым выключна бесстаронні, будзе зроблены. Разам з тым рэдакцыя папрасіла асобных эканамістаў падзяліцца першымі ўражаннямі ад гэтага дакумента, тым, што больш за ўсё выклікае адабрэнне або жаданне паспрачацца.**

**Я. Герштэйн, дактарант Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта.** Дакумент дастаткова сур'ёзны, багаты на ідэі, аднак гэта хутчэй не канцэпцыя, а своеасаблівы палітыка - эканамічны «пратакол аб намерах» рэформы. Цяжка ацэньваць яго па гарачых слядах, патрэбна ўдумлівае вывучэнне, але тым не менш адразу можна адзначыць наступнае. Пры неаднаразова падкрэсліваемай рыначнай арыентацыі рэформы спрэчны тэзіс аб выкарыстанні планава - адміністрацыйных метадаў яе рэалізацыі. Такі шлях быў бы прыдатны два-тры гады назад, калі гэтыя метады яшчэ «працавалі».

Незразумелая затрымка з прыватызацыяй (яна плануецца толькі на чацвёртым этапе). Тут ёсць таксама адна супярэчнасць. На трэцім этапе мер па стабілізацыі прапануецца стварыць 100—150 тысяч юрыдычных асоб у прамысловасці. Але наўрад ці ў такіх жорсткіх эканамічных і фінансавых умовах, што прапануюць аўтары, адбудзецца прадпрымальніцкі бум. Да таго ж павелічэнню колькасці прадпрымальніцкіх структур спрые менавіта прыватызацыя, а не наадварот — яе адсутнасць ці стрымліванне.

Радыкальныя рашэнні прапануюцца ў фінансава-грашовай сферы. Пры гэтым не прапрацаваны праблемы падатковай палітыкі. Напрыклад, думка аб устанаўленні падатковых ставак у адпаведнасці з патрэбамі бюджэту — даволі няпэўнае рашэнне, якое пагражае інфляцыйным усплёскам ужо ў новых умовах.

У той жа час шэраг мер, прапануемых у канцэпцыі, не можа выклікаць пярэчанняў — упарадкаванне гандлю, аптымізацыя зямельнай рэформы і г. д.

**В. Клецкі, загадчык аддзела Інстытута эканомікі, доктар эканамічных навук.** У пачатку гэтага дакумента аўтары патрабуюць (раздзел VI) строгага выканання прынцыпу недатыкальнасці ўласнасці, і з гэтым можна цалкам пагадзіцца. Аднак прапануемыя меры нярэдка знаходзяцца ў яўнай супярэчнасці з абвешчаным прынцыпам. Напрыклад, прапанова ануляваць усе безнаяўныя грошы на рахунках юрыдычных асоб (гл. раздзел «План дзеянняў. Падрыхтоўчы перыяд»). Прыняць гэту прапанову — значыць забраць у шырокага кола таваравытворцаў заробленыя грошы, пазбавіць добра працуючыя калектывы вынікаў іх працы. Гэтая мера роўная праведзенаму ў свой час раскулачванню, экспрапрыяцыі найбольш актыўнай часткі сельскагаспадарчага насельніцтва.

Такім жа не рынычным і не дэмакратычным выглядае і патрабаванне аўтараў канцэпцыі (гл. пункт 6 таго ж раздзела) падмацоўваць дакументамі законнасць кожнага паступлення сродкаў на адзіны асабовы рахунак вытворцы. Увядзенне такога парадку азначала б правамернасць татальнага сачэння з боку органаў улады за любым крокам таваравытворцы, неабходнасць утрымання вялікай непрадукцыйнай арміі кантралёраў над стваральнікамі матэрыяльных даброт.

**А Савін, галоўны спецыяліст Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў Беларусі.**

Больш за ўсё ў ім кранула гаворка аб неабходнасці прыпыніць прыватызацыю Маўляў, апаратная яна і ўжо толькі па гэтай прычыне аспрэчваецца. Маўляў, ёсць выпадкі дзікай прыватызацыі... Не ведаю, можа, і ёсць, і трэба такім выпадкам даваць адпаведную ацэнку, аб'яўляць іх незаконнымі, але не адхіляць саму канцэпцыю прыватызацыі, не прыпыняць і не спыняць яе. Сёння кожны дзень дарагі, мы літаральна на крок ад бездані.

## Гадзіннік пушчаны. На вуліцы—вялікі футбол!

### СЁННЯ ПАЧЫНАЕЦЦА ПЕРШЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЧЭМПІЯНАТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ФУТБОЛУ



**Скончыліся словы, няма больш падстаў для дыскусій, непаразуменняў... Мяч устаноўлены на цэнтр, суддзя гатовы даць свісток — першы ў гісторыі беларускага футбола нацыянальны чэмпіянат з удзелам усіх без выключэння лепшых каманд стаў рэальнасцю.**

Прыгадаем, аднак: яшчэ літаральна паўгода назад пра гэту, несумненную цяпер падзею ва ўсім спартыўным жыцці Беларусі, гаварылі з аглядкай, нават — бояззю. І ў вышэйшых спартыўных інстанцыях, і сярод спецыялістаў, і нават у балельшчыцкіх колах ніяк не маглі ўявіць наш флагман — мінскае «Дынама» — сярод удзельнікаў рэспубліканскага першынства, а, скажам, матч тых жа дынамаўцаў з рэчыцкім «Ведрычам» ці віцебскім СКБ «Лакаматыў» называлі ледзь не абразай як для адных, так і для другіх... «А ці пойдуць на такі футбол аматары спорту?»; «Хто ж будзе судзіць гэтыя сустрэчы?»; «Ці ёсць у нас трэніровачная база?»; «А ў якім стане стадыёны ў рэспубліцы?» — колькі пытальнікаў, якія вельмі часта пераходзілі ў клічнікі, ставіла перад кіраўніцтвам фізкультурнай арганізацыі Беларусі, а яшчэ ў большай меры — перад прафесіянальнай Федэрацыяй футбола рэспублікі сама наша не вельмі прыстойная рэчаіснасць?!

Будзем аб'ектыўнымі: наша футбольна-спартыўнае кіраўніцтва за ідэю правядзення чэмпіяната Садружнасці Незалежных Дзяржаў трымалася

(Заканчэнне на 3-й стар.).

